Віктар Гардзей

# ВЕРАСНОЕ ПАЛЯСОЎЕ

ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1978

* * *

І колас поўны,
І арэх.
І цесна птушкам у шпакоўні.
Дажджынкі падаюць са стрэх.
Засекі прыпар перапоўніў.

Укоптур кошыкі грыбоў.
Да дна не выліцца крыніцы.
І кубак мёду да краёў,
І з беражкамі —
У дайніцы.

Слядоў ласіных не злічу,
Гаямі ідучы густымі.
Я шчасця вечнага хачу
Сяброўцы,
Ластаўцы,
Радзіме.

Напэўна, маме перайшлі
Дарогу з поўненькім вядзерцам
У той шчаслівы міг,
Калі
Мяне пачула каля сэрца.

* * *

За шчасце я Радзіме многа вінен.
І знаю: трэба гэты доўг сплаціць.
Я да канца ёй так служыць павінен,
Каб без нядоімак жыццё пражыць,

Каб і за той, за развітальнай рыскай,
Не мучыў і не пёк мяне дакор,
Што перад сконам з грамадзянскім іскам
Стаяў майго сумлення пракурор.

# БЕЛАЯ ВЕЖА

Калі на зямлю апускаецца змрок
І час запаліцца малінавай зорцы,
Да Белае вежы,
пружынячы крок,
Прыходзяць начныя дазорцы.

Ці неба асвеціцца ззяннем зарніц,
Ці возьмецца нанач мароз не на жарты,
Да раніцы будзе стаяць ля байніц
Граніцы нядрэмная варта.

У час развітальны
з тугой жураўлі
Над пушчай,
над Белаю вежаю кружаць.
Аддана тут продкі служылі зямлі,
А сёння іх слава ёй служыць.

Дазорцы стаяць у сцішэлай начы,
Бясстрашна і думна глядзяць на дарогу.
А з'явіцца вораг — і зноў трубачы
Пратрубяць,
як колісь,
трывогу.

Нячутна,
нябачна,
пад сховай лясоў,
Па сонных далінах, па ціхіх азёрцах
Да Белае вежы з глыбіняў вякоў
Прыходзяць начныя дазорцы.

# ПЕТРЫКАЎ

Добры дзень,
сталіца Талаша!
Добры дзень,
зязюльчыны дубровы!
Ля старога —
з веццяя —
шалаша
Слухаю я крокі лесніковы.

Тут жыву, хаджу —
я тут увесь
Між снягоў,
зязюль,
зрунелых гоней.
Даляцеў і замірае дзесь
Тупат быстрых партызанскіх коней.

Я нясу ў сабе птушыны грай
І бяроз зялёнае свячэнне.
Любы край,
я не кажу:
— Бывай!
Я табе кажу:
— Да пабачэння!

* * *

Пад высокім светлым небам
Родная зямля ляжыць.
Пасадзі аглоблю ў глебу —
Дрэва кронай зашуміць!

Тут рачулкі не зачахлі,
Голле ломіцца ў садах.
Тут малодзівам прапахлі
Туманы на паплавах.

Тут жыццё —
на поўны голас!
Кожны мае клопат свой:
Гоні
гоняць
гонкі колас,
Луг
набрак
густой
травой.

Як рацэ
яе
лілеі,
Дораг мне бацькоўскі кут.
Тут душою пасвятлееш!
Уваскрэснеш тройчы тут!

# СУЗОР'Е АРЫЁН

*Касманаўту Пятру Клімуку*

Іскрыліся сняжынкі белых знічак.
І Млечны Шлях свяціўся, як рака.
І Арыён —
сузор'е паляўнічых —
Трубіў начамі ў рог маладзіка.

Хлапчук з душой дапытлівай і шчырай
Глядзеў на зоркі,
і не ведаў ён,
Што стане для яго арыенцірам
На ўсё жыццё сузор'е Арыён.

Увысь глядзеў хлапчук з-пад Белай вежы.
Сябры яшчэ і думаць не маглі,
Што будзе ён сузор'ям прыналежаць,
Як прыналежаў людзям і зямлі.

На Млечны Шлях глядзеў хлапчук вясковы,
І быў душой ужо высока ён —
Там, дзе трубіў у рог маладзіковы
Над пушчай,
быццам егер,
Арыён.

# ПОЛЕ ПАМЯЦІ ЛЮДСКОЕ

Поле з жытам у прыполе.
Поле бітваў, што прайшлі.
Электрычнае ёсць поле.
Ёсць магнітныя палі.

Поле памяці людское
Быльнягом не зарасло:
Трэба ведаць пра былое —
Што было і як было?

Ёсць у кожнага ў нас поле —
Поле сённяшніх трывог,
Поле вызнанага болю,
Поле мудрых засцярог.

Маладой адчуй душою:
Што было і як было,
І чаму над галавою
Сонца яснае ўзышло?

Не забыць іх анікога,
Тых герояў, што ішлі
Полем шквалу агнявога
Ды праз мінныя палі.

Хай рунее ў сэрцы поле —
Поле сённяшніх трывог,
Поле памяці і болю,
Поле мудрых засцярог.

# ПАРТЫЗАН

Да Лані ішоў праз палеткі.
Праз боль свой,
Праз гнеў і свінец.
Прыпаў да вады,
як улетку
Ад кошлі гарачай касец.

Піў доўга.
Нарэшце напіўся.
Прыпёрся спіной да сасны.
Ён добра-такі накасіўся
На лузе крывавай вайны.

І жонку не бачыў паўгода.
І ведаў:
няма як тужыць —
На фрыцаў настала пагода,
Іх трэба касіць ды касіць.

Пагода!
І вось ужо вечар
На травы асыпаў расу.
І зноў аўтамат ён —
За плечы,—
Сваю баявую касу.

# ПОМНІК

Цвілі лугі.
Дымы плылі.
На травы ўпаў салдат свабоды.
Сябры яго далей пайшлі,
А ён —
застаўся назаўсёды.

Высока ўзняты над зямлёй,
Увесь у яркай пазалоце,
Ён і цяпер глядзіць з тугой
Услед сваёй стралковай роце.

* * *

Рэха журбы над лясамі крычыць.
Рэха вайны яшчэ грукае ў хаты.
Рэха з гадоў тых далёкіх ляціць,
Рэха ўсхліпу і рэха гарматы.

* * *

З даўняе,
Школьнай чытанкі яшчэ
Тую загадку
Не раз прыгадаю:
«Ліпа цвіце.
Сонца пячэ.
Хлеб даспявае...
Калі так бывае?»

Першым у класе
Руку я падняў:
— Ліпа ўбіраецца
У ліпені цветам...
Толькі ж тады
Я не так адказаў,
Сёння, напэўна,
Сказаў бы я гэтак:

— Калі не задымлена
Даль палявая,
Калі з неба вецер
Свінцом не мяце,
Так і бывае —
Хлеб даспявае...
Сонца пячэ...
Ліпа цвіце...

3 Зак. 1237

# МЯДЗВЕДЗІ

У нашай хаце небагатай
Вісеў гадзіннік на сцяне.
На ім мядзведзі з цыферблата
Штораз глядзелі на мяне.

У бураломе лесу шэрым
Зусім нязгорш жылося ім,
А тут —
нішчымная вячэра,
І з грубкі ў вочы лезе дым.

Паўз нашы шэрыя хаціны
Прайшла вайна, ды што дзятве!
І я ляцеў на двор к мужчынам,
Што зруб рубілі удаве.

Ля іх калеў тут на марозе
І з імі грэўся пры агні.
Пазней я з бацькам вёз на возе
Мяшок жытца на працадні.

Яшчэ праз час мы ў новым доме
Чаплялі «мішак» на сцяне.
Яны дурэлі ў бураломе
І падбадзёрвалі мяне.

Старыя ходзікі без бедаў
Зіму кульгалі не адну,
А вось цяпер дамоў прыеду
І —
бачу голую сцяну.

Даўно, даўно ржавеюць недзе
Старыя ходзікі ў зямлі.
А мне шкада,
Шкада мядзведзяў,
Што з цыферблата не ўцяклі.

* * *

Мароз валёнкамі пагрукваў,
Трашчаў у клёнах за сцяной.
Я шчылінку ў акне прахукваў
І бачыў свет дзівосны ў ёй.

Мурлыкаў Васька ля прымурка,
А там, у снежнай чысціні,
Па белай роўніцы Снягурка
На белым ехала кані.

Пазней ужо
адкрыўся новы —
Вялікі і трывожны свет,
Дзе ёсць зажураныя ўдовы,
Дзе ў холад гіне кволы цвет.

Адкрыўся свет і азадачыў
Сваёй суровасцю мяне.
Таму што свет я іншым бачыў
Праз тую шчылінку ў акне.

# ПЕЎНІК ГЛІНЯНЫ

— Бабы, анучы!
— Гэй, бабы, анучы! —
Едзе па вёсцы
Анучнік сівы.
Гляне назад,
А за возам скрыпучым
Болей, чым баб тых,
Мурзатай дзятвы.

Стужкі і брошкі
Прывёз ён дзяўчатам.
Ніткі і голкі
Не дасць задарма.
Бабка злуецца:
— Ах, Гітлер праклятм!
Нават старызны
І тое няма.

Клунак рыззя
Навязала бабулька:
Будзе іголка —
Сірот абшываць...
— Бабка,— прашу я,—
Купі мне свістульку.
Вунь тыя пеўнікі
У скрынцы ляжаць...

Бабка ўздыхнула:
Шкада ёй іголку...
— Ах, ты свістун мой...
І бабку з тых дзён

Певень гарласты
Разбуджваў на золку,
Пеўнік гліняны
Праводзіў на сон.

З'ехаў анучнік.
Прапаў за туманам.
Ціха і ў хатцы,
Дзе з бабкай я жыў...
Як жа так выйшла,
Мой пеўнік гліняны? —
Рана бабульку
Ты спаць палажыў...

# ЖОРНАВЫ КАМЕНЬ

Я — камень.
Я — жорнавы камень.
Калісьці я быў у цане:
Круцілі,
Круцілі вякамі
Шурпатыя рукі мяне.

Бывала, ступлюся —
Насечку
Зубіламі зробяць наноў.
Малоў я і жыта,
І грэчку,
А зрэдзь і пшаніцу малоў.

І солад, каб брага брадзіла,
Стараўся скруціць як драбней.
Хаўтуры,
Вяселлі,
Радзіны
Праходзілі ўсе паўз мяне.

Круціўся я ў золь і марозы
Упоплеч з нядоляй людской,
Малоў я і ўдовіны слёзы,
Што капалі ў жыта з гірсой.

Круціўся,
Куды ні павернеш,—
Эпоха між двух камянёў.
І дні ліхалецця, як зерне,
Я ўсе да астатку змалоў.

* * *

Над белаю бярозкай,
над пралескай
Заходзяць на пасадку журавы.
Сігналяць ім з балоцістага ўзлеска
Агеньчыкі азяблых журавін.

Каля цябе,
бярозка веснавая,
Душой,
бы журавінка,
адтаю.
І, як ніколі, востра адчуваю
Я на зямлі прысутнасць і сваю.

Зязюлі мне прадказваюць удачу.
Неразгаданы
міма свет плыве.
Я чую лес, і гордых птахаў бачу,
І з імі я, вядома ж, у радстве.

Вясна! Вясна!
Высокі неба купал.
Над сінім лесам жураўліны клін.
І я стаю,
як жорау,
паміж купін
З прыгоршчай перамёрзлых журавін.

# РУЧАЙ

Люблю апошнюю адлігу,
Люблю прадвесніцу цяпла!
Яна вясны адгорне кнігу,
Што пад сумётамі была.

Вось ручаёк прабіўся з логу,
Бяжыць гукаць сваіх сяброў,
Каб выбіраліся ў дарогу
З-пад асядаючых снягоў.

Ні супачыць і ні прылегчы —
Праз гурбы рвецца напралом.
Яму б да Прыпяці дабегчы,
А там зрадніцца і з Дняпром.

Бяжыць ручай за небасхілы,
Зямлю абуджвае ад сну.
Ля партызанскае магілы
Ён поіць сумную сасну.

Пасля, свабодай апантаны
І ўзбаламучаны зусім,
Намочыць ногі закаханым,
Што цалаваліся над ім.

Таўкуць на ўгрэве промні сонца
Крупчасты снег, нібы куццю.
Бяжыць ручай у шлях бясконцы,
Насустрач вечнаму жыццю!

* * *

Стаяць буслы на грэбнях хат.
Я чуў не раз пра іх адчайнасць:
Буслы скідаюць буслянят
На дол у годзе неўраджайным.

І мне за іх душа шчыміць.
Дык будзь жа міг той блаславёны,
Калі над лесам загрыміць,—
Над голлейкам яго зялёным!

Хачу, каб гэты першы гром,
Прарасшы шчаснаю часінай,
У кожны свіран, кожны дом
Вярнуўся шчодрай асянінай.

Мне за буслоў душа шчыміць:
Не быць бы ў горы ім адчайным.
На голы лес хай не грыміць,
Будзь хлебны,
год,
будзь ураджайны!

* * *

Майскі дождажык,
кроплі —
жменькай,
Потым —
жменяй сыпані!
Хмара —
радасці сявенька.
Лівень —
сейбіт чысціні.

Ад дажджу свет пацяплее:
Дождж змывае пыл і сум.
Рунь ярчэй зазелянее.
Пасвяжэе завязь дум.

Так рупліва і так зычна
Над сялом буркоча гром.
Дождж даўно не сімвалічны:
Дождж — не жменькай,
а — вядром!

Шум над плёсам.
Шум ля броду.
Вецер,
даль раскалышы!
Хай бярэцца на пагоду
І ў нябёсах, і ў душы.

* * *

Тая ты, і ты — не та̀я,
Як была, ўсё ж не такая.
Шчырасці маёй павер:
Ты — пралесачка былая,
Ты — званочак мой цяпер.

Хай імжыцца.
Хай дажджыцца.
Не, такое не прысніцца:
Кветкі дзве перада мной!
Дык якой больш ганарыцца:
Тою — першай?
Ці — другой?

Помню тую — веснавую.
Бачу летнюю — другую.
Але ў самы светлы міг
Абдымаю і цалую
Вас абедзвюх,
Дарагіх!

# ВОЧЫ ТВАЕ

Срэбрам ранішніх рос,
Зорнай яснасцю ночы
І пяшчотай бяроз
Тває свецяцца вочы.

Сінь ільноў на палях
І даверлівасць кветак
Засталіся ў вачах
Ад спякотнага лета.

Бачу ў іх, як зары
Ружавее палоска.
Бачу ў іх, як гарыць
Мак пунсовы за вёскай.

Быў я тут у журбе
І ў абдымках гарачых,
І такім я сябе
У вачах тваіх бачыў.

Сонца свеціць ярчэй.
Жыта выспела ў полі.
Смутак любых вачэй
Мне б не бачыць ніколі.

* * *

Быццам выліты з медзі,
Гай ласямі трубіў.
«Не пайду...
Там мядзведзі!..» —
Цябе страх ахапіў.

І пабегла сцяжынкай
Ты назад да сяла —
Белакрылай касынкай,
Як рабінка, цвіла.

Ты пабегла далёка —
Не дагнаць, не дагнаць.
Толькі ў верасе крокі
Твае зрэдку звіняць.

Дні і ночы мінаюць.
Клін гадоў нада мной.
Ля далёкага гаю
Страх згубіла ты свой.

Ты пабегла сцяжынкай
І прапала ў лясах,
А касынка...
касынка
Мільгаціць у вачах.

* * *

Помню: штосьці шаптала дуброва,
Як ішоў ад цябе ў першы раз,
Срэбрам сыпаўся звон жаўруковы
І ўзыходзіла сонца якраз.

Хмаркі роспачы сонца не засцяць,
Не зацягнуты смуткам пагляд:
Узыходзіла сонца на шчасце,
І святлееў, і яснееў далягляд.

Не бяда, што, бывае, нягодзіць,
Што юнацтва сплывае, як дым.
Тое сонца яшчэ ўсё ўзыходзіць
Над каханнем тваім і маім.

* * *

Ці здалося з адзіноты,
Ці прымроілася ў сне —
Праз глыбокія сумёты
Ты прыбегла да мяне.

Пранізалі снежны морак
Родных зрэнак светлячкі.
Ціхі шэпат.
Ціхі шорах.
Шпількі выпалі з рукі.

Пахнуць холадам радзімкі.
І дрыжыш ты ўся сама.
Я лаўлю цябе ў абдымкі,
Ды няма цябе, няма.

Прахапіўся падсвядома.
Пустату, твой цень лаўлю.
І пякучаю аскомай
Слова горкае —
«люблю!».

## ВЕРАЦЯНО

У хаце сцішана і шэра.
Тут той жа куфар, той жа стол.
Здалося:
зараз рыпнуць дзверы,
І пасвятлее ўсё вакол.

Здалося:
вернецца вось маці,
Да грубкі стуліцца спіной —
Кудзеляй зноў запахне ў хаце,
Закружыцца верацяно.

Яна хусцінку перавяжа,
Разгладзіць зморшчкі ля брывоў,
І будуць рукі прасці пражу,
І песня вытчацца без слоў.

Нялёгка мне.
Як боль мне здужаць?
Няма яе.
Няма даўно.
Заплюшчу вочы:
кружыць,
кружыць,
Вядзе на ўслон верацяно...

* * *

Жаваранак,
                раніцы падручны,
Сонца разбудзіў —
                        такі буян!
І яно, як старажытны лучнік,
Развязала стрэл тугі калчан.

Стрэлы ўпалі залацістым градам.
Далячынь,
            як цеціва,
                    гудзе.
Сонца на запыленых прысадах!
Сонца на траве і на вадзе!

З неба стрэлы сыплюцца так кучна,
Што блішчыць уся зямля наздзіў.
Жаваранак,
                раніцы падручны,
Хай бы сонца ты заўжды будзіў!

## ПАВЕР'Е

На гняздо
Натрапіў я пад вечар
У куп'і
На скошаным лужку.
А ў гняздзе —
Пацешная малеча,
Жаўраняткі
Ў светленькім пушку.

Я маўчу.
На іх гляджу з любоўю.
Ёсць павер'е:
Нельга гаварыць
І смяяцца нельга
Ля гняздоўяў
У той час,
Як захад дагарыць.

Загаворыш,
А кажан пачуе,
Пойдзеш ты —
Ён птушак задзярэ.
Я маўчу.
Гнязду дабро вяшчую.
Я маўчу,
Бо захад дагарэў.

* * *

Плыве туман над цёплай будай,
Над жураўлямі ў лазняку.
З-за сосен промні, быццам вуды,
Вось-вось уторкнуцца ў раку.

Ласі вяртаюцца з папасу.
І егер трубіць дзесьці ў рог.
Стаю я ў тым прамежку часу,
Дзе зорыць дзень і гіне змрок.

Сасонкай кожнай і травінкай
Світае любая зямля,
Світае светлаю расінкай
На белых крыллях жураўля.

## ПЕРАПЁЛАЧКА

Ты ў жыце жывеш,
Ты для жыта пяеш
І яму вады просіш у спёку.
Як пачую — пяеш,
Знаю — добра жывеш!
І ніяк не прайсці полем збоку.

Я сюды прыбягу
Ясным золачкам.
Без цябе не магу,
Перапёлачка!

Увесь свет абыду,
Сваё жыта знайду,
Буду слухаць цябе ля дарогі.
Ты скажы: «Адвяду
Я любую бяду»,
І даверу табе ўсе трывогі.

Ля дарогі ля той
Пахнуць зёлачкі.
Праляці нада мной,
Перапёлачка!

Ці ж магу я забыць
Тваё ціхае: «Пі-іць»?
І ці трэба больш долі шчаслівай?
Мне з табой не тужыць,
Мне з табой добра жыць
У зялёнага жыта разлівах.

Раніш сэрца ты мне,
Як іголачка,
Тваім песням звінець,
Перапёлачка!

* * *

Далёкі продак вырастаў, як колас:
Яго і ў трубку гнала,
І ў трубу
Круціла доля.
І схіляўся долу
Ён з асцюкамі гора на гарбу.

Хоць гнуўся ён,
Ды выстаяў пад ветрам,
А ў сэрцы грэліся зярняты дабрыні,
Каб прарасці
І праз стагоддзяў нетры
Прыйсці і каласіцца ў нашы дні.

Рунее ніва,
І жыццё ашчадна
Прасуе дні пражытыя ў цюкі.
Зярняты застаюцца для нашчадкаў,
І сыплюцца на вецер асцюкі.

* * *

Мне жыць на зямлі даспадобы —
Кахаць, працаваць і змагацца,
Бо я не жалезны той робат:
Я плакаць магу і смяяцца.

У днях, што, як хвалі, вірують,
Я ўсё ж падуладны стыхіі:
Трывожаць мяне і турбуюць
Нягоды свае і людскія.

Сустрэне прыветна дуброва —
Прыбег я не птушак паслухаць.
Сябе тут адкрыю нанова,
І знікне зялёная скруха.

Я сэрцу збалеламу веру.
Суджу ненавіснікаў строга.
І сябру,
 і дрэўцу,
 і зверу
Патрэбна мая дапамога.

А збуду нялёгкі свой клопат,
І зноў на жыццё за сабою
Гляджу так,
 як воін з акопа
На поле нядаўняга бою.

# СЭРЦА

У ім, маленькай кропельцы Сусвету,
Змясціўся, як ні дзіўна, цэлы свет:
Сышліся ў ім трывога за планету
З трывогаю за яблыневы цвет.

Яно ў грудзях, бунтуючы, пульсуе,
І ад таго святлею я душой,
Што яблыня ранетамі частуе
І робіцца пагодна над зямлёй.

* * *

Зямля, спачынку не прасі:
Агучана, як грампласцінка,
Круціся на сваёй асі
Мільёны год без перапынкаў.

Сягоння нам жаўрук звініць.
І трубіць лось.
І вецер вые...
Пра што ж вы,
Заўтрашнія дні,—
Зямлі дарожкі гукавыя?

* * *

Сляды былых імперый —
Курганне і некропалі.
Жывём.
Смяёмся.
Верым.
А камень дробіць кропля.

Руіны Калізея
Прыціснуты вякамі.
Жывём.
Пяём.
Сталеем.
А кропля дробіць камень.

Прад вечнасцю, няйначай,
І піраміды — дробязь.
Жывём.
Смяёмся.
Плачам.
А камень кропля дробіць.

* * *

Цягнікі спыняюцца раз-пораз,
І ў прасцяг імчацца цягнікі.
Над святлом зялёных светафораў
Ападаюць хрыплыя гудкі.

Вухам рэпрадуктара бяроза
Слухае (адна на ўвесь вакзал),
Як перабіраюць цеплавозы
Коламі клавіятуру шпал.

Музыка тут тая ж, як і ўсюды,
Як і скрозь на станцыі любой.
І букеты тых жа незабудак,
І такі ж тут тлум і неспакой.

У лясах, не пры глухой дарозе,
Ёсць на свеце станцыя ў мяне —
З рупарам на сцішанай бярозе,
З сумам незабудак у акне.

* * *

Бераг, быццам крама ювеліра,
Зіхаціць брыльянтамі расы.
Дуб-двайнік наструніўся, як ліра,
І гудуць чмялямі верасы.

Свіцязь ціха з хвалямі гуляе,
Падмывае вербам карані.
І мяне таксама падмывае
Акунуцца ў сіняй глыбіні.

Цёплым днём вада наскрозь прагрэта,
І наскрозь прасвечана яна.
Тут вада, нібы душа ў паэта,
Чыстая і светлая да дна.

# ГЛУШЦЫ

Ціха раніца настала.
Пасвятлелі ядлаўцы.
З лёхаў пушчы на прагалы
Чуйна крадуцца глушцы.

Вось касач распушыў крылы.
Ну і злосці, злосці ў ім!
Ёсць і спрыт,
і хопіць сілы,
І падужацца ёсць з кім.

Пераўжыў слату і сцюжы
Недарэмна жыццялюб:
Дужы ты, і ён, брат, дужы!
Ты — за чуб,
і ён — за чуб!

Ходзіць чынна, ходзіць лётка
Самы грозны між глушцоў.
Маладзенькая залётка
Кліча, вабіць з верасоў.

І глядзіць,
глядзіць з давер'ем
На таго,
што пры лаўжах
Бой пачаў,
сваім жа пер'ем
Да яе заслаўшы шлях.

* * *

Сонца́ чырванела, як каліна.
І мядова пахлі верасы.
І касцёр палаў,
А па далінах
Слаўся дым, вільготны ад расы.

Пасвяжэла.
Сціхла камарэча.
І агонь адразу пабялеў.
Пугай бліскавіцы шчоўкнуў вечар,
Подбегам пагнаў рагуль у хлеў.

Пастушкі ішлі наўзбоч дарожкі.
Гаспадынь вітаў працяжны рык,
А над лесам, нахіліўшы рожкі,
Выпусткам падбрыкваў маладзік.

Там, далёка, за прыціхлай вёскай,
Датлявала вогнішча само...
Бачу дым...
І ў сэрцы адгалоскам —
Каласоў зялёнае пражмо.

* * *

Схавай, брат, сваю берасцянку,
Дык, можа, унук зберажэ.
На лузе твой статак ад ранку
Электрапастух сцеражэ.

Не мае дуды адмысловай,
Як ты, ён не п'е з ручая.
Вось так, мой табуншчык вясковы,
Старэе пасада твая.

Унуку нясі берасцянку,
Каб ён, твой унук, не забыў,
Як плача расой луг уранку
Ад жалю самотнай трубы.

# БАЛОТА

Зноў востраў.
Лясісты.
Пануры.
Суровы.
Баляць мае ногі, і сэрца шчыміць.
Ды можна развесці касцёр вечаровы,
Адзенне і боты свае прасушыць.

Агонь разгарэўся.
І чай вось сагрэты.
І можна да ранку спакойна заснуць.
Калі нацянькі ты імкнешся да мэты,
Дык нельга балота ніяк абмінуць.

Дрыжала ля ног чорна-бурая хляба,
Што здолее ў момант лася засмактаць.
Ды я тут праходзіў,
хоць чуў сябе слаба,
Калі не было каму рукі падаць.

Далося балота нялёгкай цаною,
А выйшаў на груд —
спадзяваннем жыву,
Што будзе таму, хто ідзе ўслед за мною,
Ісці і прасцей, і лягчэй праз дрыгву.

* * *

Над ляснымі хатамі
Віўся пах жніўя.
Пад грамоў раскатамі
Нарадзіўся я.

Перамыты ліўнямі,
Захад барвавеў.
Спаў начамі жніўнымі
Я пад матчын спеў.

Спаў, яшчэ не знаючы,
Што ўжо лёс зрадніў
З летам дагараючым,
З перашэптам ніў.

Спаў, а ўжо быў звязаны
З прагаю жніва,
З вішнямі, і вязамі,
І з сузор'ем Льва.

Вёсцы быў уручаны
Я калісь пад ім
І навекі злучаны
З клопатам людскім —

Жніўным днём са святасцю
Думаць аб сяўбе,
У сынах крылатасцю
Паўтараць сябе.

* * *

Чаго прыціх, лес вераснёвы?
Ты ж так, бывала, прывячаў,
Калі ад з'едлівага слова
Я пад крыло твае ўцякаў!

Даўно, даўно не быў я дома.
Вярнуўся вось, і ўжо — чужы.
Знаёмы лес стаў незнаёмы,
Сустрэў калючкамі ажын.

Лес парадзеў — прасторней стала.
Навокал пні,
падрост,
кусты.
Як часта лесу не хапала
Цяпла і нашай дабраты!

Свае пачуцці, як калісьці,
Я для цябе, мой лес, збярог.
Ды толькі лісце,
толькі лісце
Маўкліва падае ля ног.

* * *

У туманах асенніх празяблы,
Сад лісцём зацярушвае дол.
І духмяністым водарам яблык
Залівае палі навакол.

На антонаўкі сёння не падкі,
Я маленства сваё прыгадаў.
Ах, як пахлі, як пахлі ападкі,
Што з расы ўранку я падбіраў!

Сад, напэўна, глядзіць у здзіўленні:
Вось дзівак,—
спелых яблык не рве,
А стаіць, як даўней, на каленях
І шукае ападкі ў траве...

* * *

За акном — снегавеяў дыханне.
За акном — маразы і вятры.
Снегіры ў косы вішань світаннем
Заплятаюць істужку зары.

Каля вішань, што ў вэлюме снежным,
Мне выразней малюецца свет —
Новых дум і турбот непазбежнасць
І пражытых гадоў першацвет.

Колькі раз тут заплачуць сумёты
І супыніць Начанка свой бег!
Ні трывогі ў лясах, ні самоты —
Толькі снег, толькі ўспенены снег!

Добры дзень, залацістае ранне!..
Добры дзень, снегавеі, вятры!..
Снегіры ў косы вішань світаннем
Заплятаюць істужку зары.

* * *

Снег пачарнеў...
А быў ён белы-белы!
Вунь і ручай прабіўся з-пад вярбы.
Не тое сонца ў клёнах пастарэлых,
Не тыя ў небе кружаць галубы.

Прыйшла мая запозненая сталасць,
Прыйшла, як светлы поўдзень,—
неўпрыкмет.
І ўжо не раз яна мяне вяртала
У той далёкі,
той ружовы свет.

За даляглядам —
там няма адчаю.
За сінявой —
там толькі смех звінеў.
Здаецца мне, што я сябе шукаю —
Таго, якім калісьці бег між дрэў.

Няма яго,
і ўжо не па-хлапечы
Гляджу на свет.
І жыць ужо спяшу.
Прастора,
час
і вопыт чалавечы
Мне вылепілі новую душу.

Снег пачарнеў...
Праталіны заліты.

Пад сонцам зімнік каля верб раскіс.
І ўсё, што белізной было прыкрыта,
Знаходзіць форму,
                                        сэнс
                                                і свой абрыс.

* * *

Не мялей, жыцця майго выток!
Я душы кіпенне ўраўнаважу:
Лішні дам таварышу глыток,
Большую сабе вазьму паклажу.

За зямлю трывогі
ля брывоў
Абазначыліся цвёрдай складкай.
Да людзей я,
да людзей ішоў
Па маршчынках першых,
як па кладках.

Між людзей,
які ні цяжкі шлях,
Я на гэтых кладках не хіснуся...
Мой выток —
на сонечных палях.
Мой выток —
у нетрах Беларусі.

# ЗМЕСТ


*** І колас поўны, і арэх... 3
*** За шчасце я Радзіме многа вінен... 4
Белая вежа 5
Петрыкаў 6
*** Пад высокім светлым небам... 7
Сузор'е Арыён 8
Поле памяці людское 9
Партызан 10
Помнік 11
*** Рэха журбы над лясамі крычыць... 12
*** З даўняе, школьнай чытанкі яшчэ... 13
Мядзведзі 14
*** Мароз валёнкамі пагрукваў... 16
Пеўнік гліняны 17
Жорнавы камень 19
*** Над белаю бярозкай... 20
Ручай 21
*** Стаяць буслы на грэбнях хат... 22
*** Майскі дожджык... 23
*** Тая ты, і ты — не тая... 24
Вочы твае 25
*** Быццам выліты з медзі... 26
*** Помню: штосьці шаптала дуброва... 27
*** Ці здалося з адзіноты... 28
Верацяно 29
*** Жаваранак, раніцы падручны... 30
Павер'е 31
*** Плыве туман над цёплай будай... 32
Перапёлачка 33
*** Далёкі продак вырастаў, як колас... 35

*** Мне жыць на зямлі даспадобы... 36
Сэрца 37
*** Зямля, спачынку не прасі... 38
*** Сляды былых імперый... 39
*** Цягнікі спыняюцца раз-пораз... 40
*** Бераг, быццам крама ювеліра... 41
Глушцы 42
*** Сонца чырванела, як каліна... 43
*** Схавай, брат, сваю берасцянку... 44
Балота 45
*** Надляснымі хатамі... 46
*** Чаго прыціх, лес вераснёвы?.. 47
*** У туманах асенніх празяблы... 48
*** За акном — снегавеяў дыханне... 49
*** Снег пачарнеў... 50
*** Не мялей, жыцця майго выток!.. 52

*Виктор Константинович Гордей*

ВЕРЕСКОВОЕ ПОЛЕСОВЬЕ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак М. Шостак. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 355

Здадзена ў набор 15.05.78. Падп. да друку 14.11.78. АТ 09887. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 2,05. Ул.-выд. арк. 1,49. Тыраж 3000 экз. Зак. 1237. Цана 15 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Гардзей В.**

20 Верасное палясоўе: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1978.— 56 с.

«Верасное палясоўе» — другая кніга Віктара Гардзея. Многія вершы паэт прысвячае роднаму Палессю. Сцвярджэнне жыцця на зямлі — асноўны матыў кнігі.

**Г** $\frac{\textbf{70403—217}}{\textbf{М 302(05)—78}}$ **40—79** **Бел 2**